Касцюк, М. П. Рэформы і рэвалюцыі як шляхі мадэрнізацыі грамадства ў ХХ ст. / М. П. Касцюк // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 4 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2009. — С. 203–208.

***М. П. КАСЦЮК***

# РЭФОРМЫ І РЭВАЛЮЦЫІ ЯК ШЛЯХІ МАДЭРНІЗАЦЫІ ГРАМАДСТВА Ў ХХ ст.

Суадносіны рэформ і рэвалюцый — адзін з важных напрамкаў у развіцці гістарычнай навукі, у тым ліку ў Рэспубліцы Беларусь. У найбольшай ступені гэта адносіцца да ХХ ст., калі сацыяльныя ўзрушэнні нярэдка станавіліся нормай жыцця. І пачатак гэтага стагоддзя ў Расіі, як вядома, быў адзначаны буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыяй 1905—1907 гг. і сталыпінскай аграрнай рэформай. У поўнай ступені іх задачы дасягнуты не былі, аднак уздзеянне на сацыяльна-эканамічнае і грамадска-палітычнае жыццё праявілася істотна. Дастаткова прыгадаць Маніфест 17 кастрычніка 1905 г., пачатак расійскага парламентарызму ў форме Дзяржаўнай думы, перасяленне значнай часткі сялянскіх гаспадарак на хутары і г. д. Гэта быў буржуазны шлях развіцця як у эканоміцы, так і грамадска-палітычным жыцці.

Пры гэтым відавочна, што аграрная рэформа П. Сталыпіна ў значнай ступені стала вынікам рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гг., дзе зямельная праблема з'яўлялася адной з асноўных. Яе нявырашанасць ра-



зам з іншымі прычынамі стварала перадумовы для новых сацыяльных канфліктаў. Першае дзесяцігоддзе ХХ ст. з'явілася своеасаблівым спалучэннем рэвалюцыйнага і рэфармісцкага шляхоў абнаўлення тагачаснага грамадства, яго мадэрнізацыі і станаўлення на буржуазную платформу развіцця.

Гэты шлях на беларускіх землях, які ва ўсёй Расійскай імперыі і многіх іншых краінах, быў перарваны Першай сусветнай вайною, калі геапалітычныя працэсы сталі вызначацца супрацьборствам дзвюх асноўных ваенна-палітычных груповак дзяржаў. У той час мадэрнізацыя грамадства адбывалася ў першую чаргу ў ваенізаваным напрамку, калі грамадзянскія галіны моцна падпарадкоўваліся ваенным мэтам.

Перапляценне ў 1917 г. у Беларусі, як і ва ўсёй Расіі, ваенных абставін з Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыямі з'явілася асаблівасцю грамадскага развіцця. Рэвалюцыі ў многім сталі вынікам абвастрэння сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных абставін у ваенных умовах, якія моцна паскорылі выспяванне сацыяльнага крызісу. У той час мадэрнізацыя грамадства адбывалася перш за ўсё ў палітычнай сферы, а сацыяльна-эканамічнае становішча было моцна аслаблена ваеннымі ўмовамі.

Дзве пераможныя рэвалюцыі ў Расіі ў 1917 г. зрабілі рэвалюцыйны шлях развіцця прыярытэтным для дадзенай пары. Гэта было характэрна і непасрэдна для рэвалюцый і для першых гадоў існавання савецкай улады. Такая акалічнасць мела месца і надалей, таму што ўсё зробленае і ўсе намеры, так ці інакш, звязваліся з рэвалюцыйнымі пераўтварэннямі як ва ўнутраным, так і міжнародным маштабах. Рэвалюцыі як шлях мадэрнізацыі грамадства былі пераўтвораны ў фетыш, якому падпарадкоўвалася ўсё астатняе ў жыцці.

Абсалютызацыя рэвалюцый і іх уздзеяння на жыццё грамадства дасягала ў тыя часы неймаверных маштабаў. Гэта падмацоўвалася і шырока прапагандуемай ідэяй сусветнай рэвалюцыі. Лічылася, што такі шлях мадэрнізацыі грамадства найбольш эфектыўны. Пры гэтым не прымалася да ўвагі, што ў такім выпадку многае вырашалася экспромтам, рэвалюцыйным наскокам, без належнай прапрацоўкі і асэнсавання прымаемых рашэнняў.

У гэтай сувязі неабходна адзначыць адмоўнае стаўленне бальшавіцкай партыі, яе кіраўнікоў, асабіста У. Леніна да рэформ як спосабу мадэрнізацыйных працэсаў. На яго думку, рэформы з'яўляліся «засцерагальнай рэакцыяй, гэта значыць засцерагаючай правячыя класы ад падзення мераю, якая скіравана супраць рэвалюцыйнага класа, хаця і па-



ляпшае становішча гэтага класа» [1, с. 209]. Тут мы бачым аднабаковае, сугуба палітызаванае стаўленне да рэформ. Прызнаючы, што яны паляпшаюць становішча працоўных, усё ж такі, на думку лідэра бальшавікоў, яны скіраваны супроць іх, таму што зніжаюць ступень іх рэвалюцыйнасці. На першае месца тут пастаўлена рэвалюцыйнасць, а не становішча народа. Гэта характэрна для ўсёй дзейнасці бальшавікоў.

У дадзеным кантэксце неабходна прыгадаць негатыўнае стаўленне кіраўніка бальшавіцкай партыі да аграрнай рэформы П. Сталыпіна. Калі толькі пачыналася яе правядзенне, яшчэ на ранняй стадыі гэтага працэсу, у красавіку 1908 г., У. Ленін адзначаў: «Што, калі... сталыпінская палітыка пратрымаецца дастаткова доўга... Тады добрасумленныя марксісты проста і адкрыта выкінуць зусім усялякую “аграрную праграму”... так як *пасля* “вырашэння” аграрнага пытання ў сталыпінскім духу *ніякай іншай* рэвалюцыі, здольнай змяніць сур'ёзна эканамічныя ўмовы жыцця сялянскіх мас, *быць не можа*» [2, с. 167].

Сталыпінская аграрная рэформа, як вядома, не была ў поўным аб'ёме праведзена ў жыццё. Гэта сталася на карысць бальшавіцкай партыі, таму што павышала рэвалюцыйны патэнцыял сялянства, а не яго жыццёвы ўзровень. Дадзеная акалічнасць працавала на рэвалюцыйны шлях мадэрнізацыі грамадства.

І ўсё ж такі кіраўнікі бальшавіцкай партыі, у першую чаргу У. Ленін, вымушаны былі пайсці на правядзенне глыбокай і маштабнай сацыяльна-эканамічнай і грамадска-палітычнай рэформы — новай эканамічнай палітыкі. Яна па свайму характару, змесце, накіраванасці мела адносна дэмакратычны характар. Гэта адбывалася таму, што нэп уключаў ранейшы, знаёмы, капіталістычна-буржуазны вопыт развіцця гаспадаркі, прымяненне рынкавых адносін і адпаведных ім стасункаў паміж суб'ектамі гаспадарання. Усё гэта дапамагло, як вядома, у кароткі тэрмін аднавіць разбураную войнамі і рэвалюцыямі сельскагаспадарчую вытворчасць і прамысловасць. Таму можна канстатаваць, што новая эканамічная палітыка з'явілася эфектыўным сродкам мадэрнізацыі эканамічных, сацыяльных і грамадска-палітычных адносін у Беларускай ССР, як і ва ўсёй савецкай дзяржаве.

Аднак рэфарматарскі характар нэпа не адпавядаў генеральнай лініі вышэйшага савецкага партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва на пабудову новага грамадства на рэвалюцыйных пачатках. Нягледзячы на несумненныя перавагі новай эканамічнай палітыкі ў эканамічным, сацыяльным, культурным развіцці, рэвалюцыйны шлях па-ранейшаму разглядаўся як прыярытэтны, таму насуперак ранейшаму меркаванню, што



нэп уводзіцца «ўсур'ёз і надоўга», яна ўжо ў пачатку другой паловы 1920-х гг. пачала згортвацца, а затым і наогул была «адкінута да д'ябла». Асноўная супярэчнасць развіцця савецкай краіны ў гэты час — супярэчнасць паміж адносна дэмакратычным характарам новай эканамічнай палітыкі і аўтарытарнымі метадамі кіраўніцтва — была вырашана на карысць апошніх [3].

Найбольш паказальнай кампаніяй у гэтым рэчышчы стала масавая і пераважна прымусовая калектывізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці. Гэта была рэвалюцыя зверху, прапанаваная партыйнымі і дзяржаўнымі кіраўнікамі Саюза ССР. Дадзеная кампанія па многіх сваіх прыкметах была з'явай надзвычайнай. На карысць такога вызначэння гавораць тыя мерапрыемствы, якія праводзіліся ў час, калі калектывізацыя была пераведзена ў надзвычай актыўную стадыю. Фактычна яна пачалася з надзвычайнай меры — масавага раскулачвання заможных сялянскіх гаспадарак, у шэраг якіх нярэдка траплялі і серадняки. Раскулачванне стала надзвычай шырокай хваляю масавых рэпрэсій.

Аб надзвычайным характары суцэльнай калектывізацыі гаворыць і накіраванне ў калгасы і саўгасы на кіруючую працу вялікай колькасці рабочых, гэтак званых 25-тысячнікаў. Як правіла, яны не ведалі спецыфікі сельскагаспадарчай вытворчасці і сялянскага жыцця, але актыўна і напорыста праводзілі генеральную партыйную лінію. Да гэтага яшчэ неабходна дабавіць стварэнне і дзейнасць на працягу 1933—1934 гг. палітычных аддзелаў машынна-трактарных станцый. Нават у савецкай гістарыяграфіі яны нярэдка кваліфікаваліся як надзвычайныя партыйныя органы на вёсцы.

Вынікам гэтых і іншых мерапрыемстваў, якія ў высокай ступені вялі да фарсіравання тэмпаў масавай калектывізацыі, стала распаўсюджанне ва ўсё большых маштабах голаду ў савецкай дзяржаве, у першую чаргу ў асноўных збожжавых рэгіёнах. Найперш ён ахапіў Украіну і яго наступствы тут былі надзвычай цяжкія. Праявы голаду меліся і на Беларусі, асабліва ў паўднёвых раёнах. Некаторыя даследчыкі нават лічаць, што ў Беларусі быў свой галадамор.

Гэтыя і іншыя акалічнасці дазваляюць кваліфікаваць масавую калектывізацыю сельскай гаспадаркі як з'яву надзвычайнага характару. Да таго ж калгасная сістэма, як лічаць некаторыя расійскія даследчыкі, аказалася падпарадкаванай дзяржаўнаму дыктату. Яна фактычна ператварылася ў арганізацыю па выкачванню сельскагаспадарчай прадукцыі на патрэбы прамысловага развіцця, абароны, культуры і менш за ўсё на патрэбы самой вёскі. Гэтая сістэма змагла вытрымаць жорсткія



выпрабаванні Вялікай Айчыннай вайны, але не змагла забяспечыць выхад сельскай гаспадаркі з паўразбуранага вайною стану, не гаворачы ўжо аб неабходным уздыме. Кааператыўныя пачаткі ў калгасах былі зведзены да фармальнасцей. Іх здольнасць да самаразвіцця не рэалізоўвалася [4, с. 29]. Такім чынам, калектывізацыя сельскай гаспадаркі як надзвычайная з'ява ў савецкай сістэме гаспадарання з'явілася своеасаблівай, складанай і надзвычай цяжкай формай мадэрнізацыі грамадства на яго шляху да фарміравання новых сацыяльна-эканамічных і палітычных адносін.

Больш паспяховымі напрамкамі ў мадэрнізацыі савецкага грамадства і пераводу яго на сацыялістычны шлях развіцця з'явіліся індустрыялізацыя і культурнае будаўніцтва. Праведзенае пераважна за кошт вёскі станаўленне прамысловасці, у тым ліку ваеннай галіны, было прыярытэтнай задачай, якая шмат у чым вызначала эканамічныя, ваенныя і палітычныя магчымасці дзяржавы [5, 6].

У пасляваенны перыяд, пасля аднаўлення гаспадаркі і палітычных пераменаў у краіне, савецкае кіраўніцтва ў рэшце рэшт вымушана было звярнуцца да некаторага рэфармавання сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага развіцця. Аднак гэтыя рэформы, што праводзіліся на працягу другой паловы 50-х —

першай паловы 60-х гг., мелі палавінчаты, абмежаваны, непаслядоўны характар і таму іх выніковасць была недастатковай. Больш высокая эфектыўнасць у правядзенні рэфармавання савецкай эканомікі была дасягнута ў другой палове 60-х гг., але гэта было спынена па палітычных меркаваннях, у першую чаргу таму, што ўзнікала неабходнасць рэфармавання грамадскага ладу, на што тагачаснае савецкае кіраўніцтва пайсці не рашылася.

Разам з тым у вызначэнні перспектыўных этапаў мадэрнізацыі савецкага грамадства наглядалася непаслядоўнасць, забяганне наперад, слабая абгрунтаванасць аб'яўленых рубяжоў. Дастаткова прыгадаць у гэтых адносінах задачы, пастаўленыя ў канцы 50-х — пачатку 60-х гг. аб «поўнай і канчатковай перамозе сацыялізму», «разгорнутым будаўніцтве камунізму», а затым аб вяртанні праз дзесяцігадовы адрэзак часу да неабходнасці стварэння «развітога сацыялізму» [7—10].

Несумненна, маштабнай і глыбокай рэформай савецкай сістэмы з'явілася палітыка перабудовы. Яе можна разглядаць як у асноўным мірны шлях мадэрнізацыі сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных адносін ва ўсёй краіне, у тым ліку ў Беларусі. Тыя працэсы, што адбыліся ў сувязі з еўрапейскімі геапалітычнымі зменамі, мелі прынцыповы характар. Глыбокая мадэрнізацыя сацыяльна-эканамічных і грамадска-



палітычных асноў існаваўшага ладу — характэрнейшая рыса пераўтварэнняў, што адбыліся. На змену савецкім парадкам прыйшлі новыя каштоўнасці, звязаныя з паступовым пераходам на рынкавыя адносіны, з'явіліся новыя арыенціры ў эканамічным, сацыяльным і грамадскім жыцці.

Перабудова і наступнае развіццё беларускага грамадства, як і рух наперад народаў іншых краін, што ўзніклі на абшарах былога СССР, можна разглядаць як этап мадэрнізацыі, які па сваім змесце, характары, накіраванасці ў многім процілеглы таму, што рабілася ў 30-х гг. XX ст. у СССР, калі ў савецкай краіне ствараліся новыя сацыяльныя адносіны на сацыялістычных асновах. Вяртанне да арыенціраў і каштоўнасцей пачатку мінулага стагоддзя сведчыць аб складанасці шляхоў мадэрнізацыі грамадства ў Беларусі, яе суседзяў, а таксама іншых народаў.

Значыць, істотным, а нярэдка вызначальным напрамкам грамадскага развіцця, яго мадэрнізацыі ў XX ст. з'яўляліся рэформы і рэвалюцыі. Іх суадносіны абумоўліваліся як аб'ектыўнымі, так і суб'ектыўнымі прычынамі. У рэшце рэшт, у другой палове мінулага стагоддзя перавага была аддадзена рэфармісцкаму вопыту ў мадэрнізацыі грамадства як больш узважанаму, рацыянальнаму, выніковаму. Прайшоўшы цяжкі і складаны шлях [11, с. 782], рэфарматарства даказала свае перавагі і сваю эфектыўнасць.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Ленин, В. И.* Полное собрание сочинений / В. И. Ленин. М., 1979. Т. 7.
2. *Ленин, В. И.* Полное собрание сочинений / В. И. Ленин. М., 1979. Т. 20.
3. Как ломали нэп. Стенограммы пленумов ЦК ВКП(б) 1928—1929 гг.: в 5 т. М., 2000.
4. *Данилов, В. П.* Аграрные реформы и аграрные революции в России (1861—2001) / В. П. Данилов. Россия в XX веке. Реформы и революции. Т. 1. М., 2002.
5. Гісторыя Беларусі: у 6 т. Беларусь у 1917—1945 гг. Мінск, 2006. Т. 5.
6. *Касцюк, М.* Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі / М. Касцюк. Мінск, 2000.
7. *Сенявский, А. С.* Урбанизация России в XX веке. Роль в историческом процессе / А. С. Сенявский. М., 2003.
8. Нарысы гісторыі Беларусі: у 2 ч. Мінск, 1994, 1995.
9. История Беларуси в документах и материалах. Минск, 2000.
10. Беларусь у сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных працэсах 1946—2006 гг. Мінск, 2007.
11. *Сахаров, А. Н.* Россия: Народ. Правители. Цивилизация / А. Н. Сахаров. М., 2004.